# Кобрынскі Веснік

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Газета выдаецца з верасня 1939 года · № 3 (7593) · Цана 1000 руб.

СУБОТА 10 студзеня 1998 г.


## Вынікі выканання бюджэту абнадзейваюць і даюць магчымасць з аптымізмам глядзець у будучыню

Аб папярэдніх выніках эканамічнага развіцця краіны ў 1997 годзе і бюджэце на наступны год паведаміў міністр фінансаў Беларусі Мікалай Корбут на сустрэчы з журналістамі, якая адбылася ў Нацыянальным прэс-цэнтры.

«Папярэднія паказчыкі даволі нядрэнныя і апярэджваюць прыняты прагноз, - сказаў міністр. - Пры гэтым валавы ўнутраны прадукт узрасце больш чым у два разы. Будзе забяспечаны рост аб'ёмаў вытворчасці, практычна выкананы мерапрыемствы па сацыяльнай падтрымцы насельніцтва».

Даволі ўстойлівыя паказчыкі эканамічнай бяспекі дзяржавы. Паводле даных, якія прывёў Мікалай Корбут, знешні доўг дзяржавы на канец бягучага года склаў 970 мільёнаў долараў і ён захаваецца амаль што на ўзроўні 1996 года. Унутраны доўг павялічыўся за год больш чым на сем трыльёнаў рублёў, што складае чатыры працэнты ўнутранага валавога прадукту. У міжнароднай жа практыцы ён вагаецца ад 43 працэнтаў, напрыклад, у Аўстрыі, да 24 працэнтаў у Фінляндыі і 22 - у Германіі.

Што датычыць узроўню дэфіцыту рэспубліканскага бюджэту, то ён, паводле папярэдняй ацэнкі, складзе крыху больш за два працэнты.

Мікалай Корбут падкрэсліў, што даходы рэспубліканскага бюджэту перавысяць узровень 1996 года больш чым у два разы. У немалой ступені паступленні ў бюджэт забяспечвалі рост аб'ёмаў вытворчасці, скарачэнне стратных прадпрыемстваў, павышэнне рэнтабельнасці.

*БЕЛТА.*

## Пенсіі павялічыліся толькі ў самых малазабяспечаных

У сувязі з ростам мінімальнай заработнай платы з 1 студзеня павялічыўся і памер мінімальнай пенсіі.

Як паведаміла карэспандэнту БЕЛТА міністр сацыяльнай абароны Вольга Даргель, гэта павышэнне закранула каля 700 тысяч чалавек - 37 працэнтаў пенсіянераў. У іх колькасць уваходзяць і грамадзяне, што атрымліваюць розныя віды даплат і надбавак да пенсій, памеры якіх залежаць ад велічыні мінімальнай зарплаты. Астатнія ж пенсіянеры, згодна з заканадаўствам, могуць разлічваць на прыбаўку толькі тады, калі сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у рэспубліцы павялічыцца больш чым на 15 працэнтаў у параўнанні з вераснёўскай, якая прымяняецца цяпер для разлікаў пенсій.

Мінімальная пенсія ўзрасла ў студзені на 13,6 працэнта, і яе памер разам з устаноўленай урадам даплатай павялічыўся з 660 тысяч да 750 тысяч рублёў.

## З УЗНАГАРОДАЙ!

Рашэннем райвыканкома Граматай раённага выканаўчага камітэта ўзнагароджаны:

*за актыўную работу на будаўнічых аб'ектах раёна і вялікі асабісты ўклад у завяршэнне будаўніцтва спартыўнага комплексу ў в. Хідры -*

*Курыга* Васіль Фёдаравіч - майстар ПМК-16;

*Панасавец* Надзея Аляксееўна - брыгадзір маляроў-тынкоўшчыкаў СПМК-7;

*Цюхцяева* Валянціна Васільеўна - маляр-тынкоўшчык СПМК-22;

*Хурсіна* Ларыса Мікалаеўна - маляр СПМК-6.

*За шматгадовую сумленную працу, вялікі асабісты ўклад у завяршэнне будаўніцтва спартыўнага комплексу ў в. Хідры -*

*Дзмітрук* Вольга Васільеўна - інжынер-будаўнік калгаса «Зара».

*За шматгадовую сумленную працу ў будаўнічым комплексе раёна, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці -*

*Радоўскі* Аляксандр Уладзіміравіч - інжынер ПМК-16.

❑❑❑

*За шматгадовую сумленную працу, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці і ў сувязі з прафесіянальным святам - Днём работніка сацыяльнай абароны -*

*Дарафяюк* Марыя Мікалаеўна - інспектар аддзела сацыяльнай абароны райвыканкома;

*Зінковіч* Ала Уладзіміраўна - бухгалтар-кантралёр аддзела сацыяльнай абароны райвыканкома;

*Магдысюк* Ніна Аляксандраўна - сацыяльны работнік аддзялення сацыяльнай дапамогі на даму пры аддзеле сацыяльнай абароны райвыканкома.

Віншуем з узнагародай!

## На прэзідэнцкай ёлцы

Напярэдадні Новага года ў Мінску на працягу 3-х дзён для дзяцей Беларусі праводзілася прэзідэнцкая ёлка. На галоўную ёлку нашай краіны пашчасціла паехаць тром прадстаўнікам Кобрынскага раёна: Вользе Кавалевіч з Каменскай школы, Уладзіславу Якімчуку з Пескаўскай і Ігару Навумчыку з Астроміцкай СШ. На свяце прысутнічаў прэзідэнт А. Р. Лукашэнка.

Дамоў нашы дзеці вярталіся з багатымі ўражаннямі ад свята, удзельнікамі якога былі, і навагоднімі падарункамі.

*В. ІГНАЦЮК, метадыст РДДЮТ.*

## Свята для школьнікаў

Надоўга запомніцца 5 студзеня для 320 школьнікаў нашага раёна. У гэты дзень для іх былі праведзены 2 навагоднія і Калядныя святы.

Спачатку вучні 5-7 класаў, сярод якіх былі выдатнікі вучобы і дзеці з малазабяспечаных сем'яў, сабраліся ў Доме культуры ААТ «Кобрынская сельгастэхніка», дзе іх чакалі Дзед Мароз са Снягурачкай, прыгожая ёлка, цікавае прадстаўленне, падрыхтаванае супрацоўнікамі ДК і гуртоўцамі, музыка ў выкананні ансамбля эстраднай музыкі Хідрынскай СШ, разнастайныя вясёлыя гульні, якія арганізоўвала культарганізатар раённага Дома творчасці юных Л. М. Бараноўская. А на пачатку ўсіх дзяцей павіншавала з Новым годам загадчыца раённага аддзела адукацыі райвыканкома З. Ф. Зубель.

А пасля абеду 160 вучняў 8-11 класаў сабраліся ў раённым Доме культуры, дзе іх павіншаваў са святамі намеснік старшыні райвыканкома А. У. Лесік, дзе таксама былі гульні, песні і, як і іх меншым калегам, навагоднія падарункі, на якія выдзеліў сродкі аддзел адукацыі райвыканкома.

*М. ХІЛЬЧУК.*

## Медалі Г.К.Жукава - ветэранам МУС

6 студзеня ў Кобрынскім ГРАУС адбыўся сход ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і працы Міністэрства ўнутраных спраў. Адкрыў яго старшыня савета ветэранаў ГРАУС. М. І. Карніевіч. Затым нам. начальніка ГРАУС В. М. Грыгорык уручыў вялікай групе ветэранаў вайны медалі вядомага палкаводца Г. К. Жукава.

Сваіх паплечнікаў з узнагародамі павіншавалі нам. начальніка аддзела В. М. Грыгорык, былыя работнікі Кобрынскага ГРАУС К. В. Чараўкоў, М. М. Рачка, старшыня савета ветэранаў М. І. Карніевіч.

Шчырыя словы ўдзячнасці за высокую ацэнку іх ратных подзвігаў выказалі ў сваіх выступленнях ветэраны вайны Д. Д. Ратнікаў, А. М. Кукараў, А. А. Зарэцкі, І. А. Талкачоў. У прыватнасці, Іван Аляксеевіч расказаў аб сваёй сустрэчы ў далёкім 1942 годзе з маршалам Г. К. Жукавым. Пашчасціла яму і яшчэ два разы на працягу вайны бачыць вялікага палкаводца. А. М. Кукараў прачытаў вершы, прысвечаныя ратным подзвігам нашага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

*А. САЦУК.*

## З міліцэйскіх зводак

*30 снежня.* ■ У жыхара г. Кобрына у перыяд з 24 на 30 снежня з дома быў украдзены магнітафон «Панасонік». Навясны замок уваходных дзвярэй быў зламаны. Устаноўлена, што крадзеж зрабілі жыхар г. Кобрына, 1945 г. н. і жыхар в. Луцэвічы, 1958 г. н. Абодва нідзе не працуюць.

■ Днём каля 14.00 гадзін з машыны, якая знаходзілася на неахоўваемай стаянцы ў двары дома на пл. Свабоды, былі ўкрадзены грошы. Ключ да дзвярэй аўтамабіля быў падабраны.

*1 студзеня.* ■ У непрацуючага жыхара г. Кобрына з месца жыхарства былі ўкрадзены тэлевізар «SAMSUNG», два відэамагнітафоны і тэлефон.

*2 студзеня.* ■ На аўтамабільнай дарозе Кобрын - Імяніны жыхар в. Імяніны на трактары К-700 наехаў на веласіпедыстку, жыхарку в. Імяніны, 1936 г. н., якая ад цялесных пашкоджанняў, атрыманых у выніку ДТЗ, памерла на месцы.


ВЕРНИТЕ ЗА ВОЗНАГРАЖДЕНИЕ!

Нашедшего портмоне с документами на имя ИВАНЮКА Юрия Петровича прошу вернуть за вознаграждение.

☎ 33-1-22 после 18.00.

ПРОДАЮ

газовый котёл, батареи.

☎: 67-2-01.

КУПЛЮ

любую 1-комнатную квартиру дёшево.

☎ 2-90-82.

❑❑❑

свинью живым весом.

☎ 2-04-16 после 18.00.

Тахограф

ОФИЦИАЛЬНЫЙ ДИЛЕР МИНСКОГО АВТОЗАВОДА

Все запчасти к автомобилям МАЗ

со склада в Кобрине

А также:
- Газовые и жидкостные отопители "Труматик-Е" (Германия) "Ардик" (Голландия)
- Тахографы "Veeder-Root" (Англия)

Тел. (8-01642) 2-51-25 ул. Советская, 118

СОСТОИТСЯ СОБРАНИЕ АКЦИОНЕРОВ

15 января 1998 года, в 15 часов в зале заводоуправления ОАО (г. Кобрин, ул. Советская, 109) состоится собрание акционеров ОАО «Завод гидравлического машиностроения».

В повестке дня следующие вопросы:
1. Об утверждении регламента проведения собраний акционеров.
2. Информация о деятельности общества за 1997 г.
3. Об использовании чистой прибыли.
4. Выборы членов правления и ревизионной комиссии.
5. Об условиях материального вознаграждения членов правления и ревизионной комиссии.

СНИМУ

квартиру, женщина с 12-летней девочкой. Порядок гарантирую.

☎ 2-90-82.

# За парадак у вёсках - усёй грамадой

❑ **На тэрыторыі Кобрынскага раёна 161 населены пункт.**

❑ **У органы мясцовага кіравання - сельскія Саветы - выбрана 168 дэпутатаў.**

❑ **Самакіраванне ажыццяўляюць 59 сельскіх камітэтаў і 126 вясковых стараст.**

## ГАСПАДАРЫ ВЁСКІ

Органы мясцовага самакіравання - селькомы - пачалі адраджацца на Кобрыншчыне ў канцы 1995 года. І на тэрыторыі нашага сельсавета іх дзейнасць пачалася крыху раней, чым у суседзяў. І мы, вядома ж, хваляваліся, як пойдзе гэтая некалі традыцыйная для Беларусі, але забытая для нашага пакалення, форма работы.

Праз даволі кароткі тэрмін пераканаліся, што, як і ў кожнай справе, усё залежыць ад людзей, якім даручана гэтая работа. Актыўна пачаў работу сельком у Тэўлях, у які вяскоўцы прапанавалі 5 паважаных аўтарытэтных вяскоўцаў - інваліда Айчыннай вайны А. Г. Губарчука, галоўнага бухгалтара калгаса А. В. Кацко, пенсіянера Г. У. Зіхманчука, палявода К. М. Барздун, работніцу чыгункі Г. М. Губар. Старшынёй селькома абралі Г. К. Зіхманчука.

Дзеяздольныя сельскія камітэты былі абраны і ў вёсках Стрыгава, Мацы, Глінянкі.

Вясной 1997 года, як працяг работы па ўдасканальванню дзейнасці органаў самакіравання, у вёсках выбралі стараст - усяго 15 чалавек. У многіх месцах імі сталі старшыні селькомаў.

З выбраннем стараст роля селькомаў не зменшылася. Яны працуюць у поўным кантакце, што толькі на карысць справе.

Узяць, для прыкладу, вёску Тэўлі, дзе старастам Г. У. Зіхманчук. Ён заняўся вельмі патрэбнай справай: рамонтам і афарбоўкай агароджы. Па гэтаму пытанню правялі пасяджэнне селькома, дамовіліся аб шляхах выканання работы. Вёску разбілі на 4 участкі, за кожным замацавалі члена селькома, якія і вялі пастаянны кантроль за гэтай работай. Г. У. Зіхманчук арганізаваў 9 чалавек і ўзначаліў работу па рамонту агароджы на могілках вёскі Тэўлі. 22 чалавекі нарыхтоўвалі лесаматэрыял для рамонту капліцы на гэтых могілках.

Пад кіраўніцтвам старасты в. Стрыгава В. А. Гальца праведзена вялікая работа па навядзенню парадку і расшырэнню могілак у Стрыгаве.

У Мацах летам правялі свята вёскі. Самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы да яго прыняла староста вёскі Л. І. Дзенісавец. У вёсцы навялі парадак яшчэ вясной, а перад святам яшчэ раз усё падчысцілі, прыбралі. Сельком і староста правялі пасяджэнне, дзе ўдакладнілі, хто можа зрабіць штосьці цікавае, дамовіліся з мясцовымі майстрамі і майстрыхамі.

Селькомы і старасты займаюцца не толькі пытаннямі добраўпарадкавання. У вёсцы Лышчыкі старасту В. У. Пакалюк хвалююць усе пытанні жыцця вяскоўцаў. Гэта арганізацыя закупу лішкаў малака, забеспячэнне палівам, газам, работа магазіна.

У вёсцы Мацы жыве стары чалавек, інвалід. Дапамагаць яму прыехаў сын. Але замест дапамогі пачаліся сваркі, п'янкі. Сына і бацьку супакойвалі ўсе, хто мог. Не дапамагло. І тады староста выклікала сына і бацьку на пасяджэнне селькома. Людзі выказалі пра іх усё, што думаюць. І абодва прыціхлі.

Усе прыклады работы селькомаў, стараст пералічыць немагчыма. Скажу толькі адно: там, дзе старасты і селькомы дзейнічаюць як гаспадары, - там і парадак.

*В. МАЛЫШКЕВІЧ,*
*старшыня Тэвельскага сельскага Савета дэпутатаў.*

*Марыя Андрэеўна Кірылюк - адна са стараст раёна. Што ўдалося ёй зрабіць за няпоўны год работы ў гэтай якасці? Што задавальняе? Што засмучае?*

*Аб гэтых і іншых момантах работы вясковага старасты гутарка з Марыяй Андрэеўнай Кірылюк.*

*- Марыя Андрэеўна! Як Вы аднесліся да выбрання Вас старастай вёсак Акцябр і Варатынічы?*

- Спачатку ад прапановы ўзяцца за гэтую работу адмаўлялася. Але калі на сходзе вяскоўцы прагаласавалі за мяне, пагадзілася. Я ўсё жыццё працавала з людзьмі: як дырэктар школы, дэпутат раённага Савета дэпутатаў трох скліканняў, пастаянна - сельскага Савета дэпутатаў. Падумала, што і гэтая мая работа будзе для людзей.

*- І з чаго Вы пачыналі?*

- Ды з традыцыйнай для вёсак праблемы - смецця. У Акцябры, непадалёку ад царквы, была велізарная звалка яго. На праўленні калгаса вызначылі месца для агульнай пастаяннай звалкі. Цяпер на месцы былога сметніка скверык.

*- Хто прымаў удзел у гэтай рабоце?*

- У асноўным, моладзь, вучні школы, настаўнікі. З дарослых некалькі чалавек. Астатнія назіралі, што з гэтага атрымаецца.

Потым узяліся за вуліцу Пралетарскую, дзе жывуць у большасці маладыя сем'і, за нічыйны, а значыць, засмечаны ўчастак, дзе намецілі зрабіць скверык і пляцоўку для дзяцей. Тут усю выйшла ўся вуліца. Праўда, усе работы выканаць не паспелі, скверык разліцваем закончыць. Потым на Пралетарскай зрабілі свята вёскі, якое, па водгуках жыхароў, прайшло цікава.

*- Што Вас задавальняе ў новай рабоце?*

- Усведамленне таго, што прыношу карысць вёсцы, людзям.

*- А што засмучае?*

- Перш за ўсё, нізкая актыўнасць вяскоўцаў у навядзенні парадку. Я ўжо гаварыла аб ліквідацыі сметніка. Узяліся мы і за могілкі. Адвялі месца для новых, ужо рыхтуем матэрыял для агароджы. Але ж і на старых трэба было парадак навесці. Ведаеце, першы дзень працавалі двое: я ды Марына Дударук. На другі дзень далучылася Ганна Сямёнаўна Паддубная. На трэці было ўжо 6 жанчын. А работы там шмат. Трэба было і зараснікі высякаць, і смецце выносіць. І дрэвы старыя прыбраць - адным словам, мужчынская сіла патрэбна была. Але мужчыны прымаюць мізэрны ўдзел у добраўпарадкаванні. Перад Вялікаднем некаторыя вяскоўцы прыбралі магілы сваіх родзічаў. А колькі такіх, за якімі няма каму дагледаць?!

Аднак момантаў задавальнення зробленым больш.

*- Як складваюцца Вашы адносіны з кіраўнікамі?*

- Добра. Заўсёды ідзе насустрач просьбам і прапановам старшыня калгаса «Кастрычнік» І. М. Заяц, падтрымлівае старшыня Гарадзецкага сельскага Савета М. І. Здановіч. Добрыя кантакты са школай, Домам культуры. Са школай дамовіліся высаджваць на ўчастку больш кветак, каб потым упрыгожваць імі вёску, грамадскія месцы.

*- Якія планы на перспектыву?*

- Давесці да канца распачатую работу. Трэба таксама дабіцца, каб у вёсцы быў ветэрынарны ўрач, які б лячыў жывёлу вяскоўцаў, бо надта ўжо вялікія страты нясуць сяляне ад памору жывёлы.

У Акцябры і Варатынічах шмат старых адзінокіх людзей. Планую разам са школай стварыць пасты клопату аб такіх людзях.

Зрабіць хочацца многае, аднак эканамічная сітуацыя не ўсё дазваляе.

*- Поспехаў Вам у ажыццяўленні ўсяго, што задумалі.*

*Гутарку вяла*
*М. ХІЛЬЧУК.*



## Радасці і трывогі старасты

*НА ЗДЫМКУ: староста вёсак Акцябр і Варатынічы М. А. Кірылюк з унучкай.*

*Фота А. ШУГАЯ.*

## Зрабіць хочацца шмат

Старастай вёскі Гайкоўка мяне выбралі ў красавіку мінулага года на брыгадным сходзе. Прапанова вяскоўцаў была нечаканасцю. Ведала, што спакойнага жыцця цяпер не будзе. Суцяшала адно: я добра ведаю людзей, яны - мяне.

Работу пачала з абходу дамоў. Пабывала ў кожным, параілася, з чаго пачынаць. Вёска наша газіфікавана, вуліцы заасфальтаваны, дамы пранумараваны. Частка клопатаў быццам бы адпадае. Але ж ёсць яшчэ двары. У аднаго там парадак, кветкі, у другога - наадварот.

І мы вырашылі пачынаць з вывазкі смецця на звалку, што і зрабілі з дапамогай брыгадзіра. На кожны дом завялі санітарныя пашпарты, у якіх адзначаюцца парушэнні, заўвагі. Праверылі санітарны стан калодзежаў.

Людзі ўбачылі, што штосьці прадпрымаецца для вёскі і вяскоўцаў, і пачалі звяртацца з рознымі пытаннямі. У кагосьці запіў муж ці ўзнік канфлікт у сям'і або з суседам. Камусьці трэба проста выказаць набалелае. Усіх трэба цярпліва выслухаць. Калі старым, адзінокім дастаткова спачування, цёплых слоў, то да выпівох, сямейных скандалістаў трэба прымаць іншыя меры. А што, акрамя гутаркі, можа староста, тым больш жанчына? У гэтых справах памочнікам мог бы стаць участковы інспектар, але ў нас яго амаль год не было.

Затое як прыемна, калі бачыш перамены да лепшага ў жыцці вяскоўцаў. Напрыклад, ёсць у нас шматдзетная сям'я Якімукоў. Нядаўна праўленне калгаса выдзеліла гэтай сям'і кватэру, сельсавет - бясплатна 10 кубічных метраў лесу. Як тут не парадавацца за людзей?!

Шмат нараканняў людзі выказваюць у адрас магазіна, дзе мала тавараў, асабліва прамысловых. А ўзяць забеспячэнне хлебам?! Завозяць яго па графіку, тры разы на тыдзень. Але часцей за ўсё хлеб не свежы. Мае званкі на хлебазавод, у гандлёвую арганізацыю пакуль эфекту не даюць. А яшчэ вельмі хочацца, каб у нашай вёсцы зноў запрацавалі лазня і пральня, каб медыцынскія работнікі трымалі пад сваім пастаянным кантролем інвалідаў першай групы, каб аднавіўся рух аўтобуса па маршруту Кобрын - Хадынічы і нашы людзі маглі наведваць царкву ў вёсцы Верхалессе.

Удасца дабіцца гэтага ці не - пакажа час. А дабіцца вельмі хочацца.

*Таццяна БУКАЧ,*
*староста вёскі Гайкоўка.*



*Старастам вёскі Барысава Міхаіла Пятровіча Марчука выбралі на сходзе вяскоўцаў вясной 1997 года, на які былі запрошаны кіраўнікі калгаса «Магдалінскі» і Кісялевіцкага сельскага Савета. На сходзе і вырашылі калектыўна, з чаго пачынаць.*

*З улікам надыходзячай вясны абгаварылі пытанне з апрацоўкай прысядзібных участкаў, выдзяленнем участкаў пад пашу для кароў і авечак вяскоўцаў. Потым паэтапна ўзяліся за вываз гною, што традыцыйна складаваўся вясной на вуліцах каля хат, смецця, пустазелля на сядзібах і прылягаючых тэрыторыях, рамонт жывёлапрагону і інш.*

*Дастаўся Міхаілу Пятровічу і разбор сямейных і суседскіх канфліктаў, дарэчы, са станоўчымі вынікамі, што сведчыць аб аўтарытэце старасты. Было адрэгулявана пытанне з парадкам пахавання на мясцовых могілках.*

*У планах работы М. П. Марчука на 1998 год, акрамя традыцыйна веснавых работ, добраўпарадкаванне вуліц у раёне новай забудовы, рамонт агароджаў састарэлых грамадзян і шмат іншых спраў.*

*НА ЗДЫМКУ: староста вёскі Барысава М. П. Марчук і старшыня Кісялевіцкага сельскага Савета дэпутатаў А. С. Камарчук гутараць з вяскоўцамі.*

*Фота А. ШУГАЯ.*

